Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 18 сакавіка 1930 г. №. 11

## Беларусы! Сьвяткуйце дванаццатыя угодкі абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка!

## Плады правакацыі.

Мы нядаўна кінулі думку аб тым, што сучасны „чырвоны дыктатар“ Масквы, Сталін,—гэта правакатар, які разам з Кутепавым і іншымі дзеячамі расейскай эміграцыі сыстэматычна, плянова падгатаўляе ўзрыў савецкага ладу ў СССР. І об'ектыўныя даныя цалком пацьвярджаюць гэту нашу думку: бо-ж у той мамэнт, як—паводле заяваў савецкае прэсы—увесь капіталістычны сьвет рыхтуецца да дружнага нападу на СССР, ён, Сталін, аб'явіў унутраную вайну, выступіўшы адначасна і проці ўсіх нацыянальнасьцяў СССР (перадусім проці беларусаў ды ўкраінцаў), і проці стомільённага сялянства, напусьціўшы проці яго „рабочыя брыгады“ і чырвонаармейцаў, каб гвалтам заганяць самастойных гаспадароў у нялюбыя ім калектыўныя гаспадаркі („калгасы“).

Выні́кі гэтае акцыі—ведамыя. Сярод беларусаў і ўкраінцаў пачалося паважнае хваляваньне. Ня толькі прэса, але й усё грамадзянства востра запратэставала проці гвалтаў над нацыянальнымі дзеячамі, учыненых сталінаўскімі агентамі. І сіла пратэсту была гэткая вялікая, што савецкі ўрад пасьпяшыў звольніць заарыштаваных прэзыдэнта Беларускае Акадэміі Навук, Ігнатоўскага, і віцэпрэзыдэнта Якуба Коласа, „запярэчыўшы“ аблецеўшай усю Эўропу вестцы аб пазбаўленьні іх волі. Адначасна-ж, адсунуўшы ад актыўнае творчае працы над будаваньнем беларускае культуры ўсе лепшыя беларускія сілы, Сталін разыгрывае камэдыю, абвяшчаючы чуць не „ударнай задачай“ („в порядке партийной дисциплины“)—будаваньне гэтае культуры панасыланымі ў Беларусь маскалямі й няграматнымі беларусамі... Ці-ж гэта ня яўная правакацыя? Ці-ж гэта ня яўны вызаў, кінены беларусам, каб выклікаць выступленьне іх проці „чырвонага дыктатара“—ды каб за гэта ўсіх беларускіх дзеячоў ахрысьціць „контррэвалюцыянерамі“, падобна да таго, як у Польшчы эндэцка-шовіністычныя колы нас абвяшчаюць „бальшавікамі“?

Яшчэ ярчэй выяўляецца сталінаўская правакацыя ў СССР. Мы ўжо падавалі афіцыяльныя паведамленьні савецкае прэсы аб ходзе „калгаснае“ кампаніі, аб тым, што для калектыўных гаспадарак няма ані патрэбнага насеньня, ані скаціны, ані трактараў, ані падгатаваных інструктароў. Мы падавалі такжа весткі „Зьвязды“ аб адпоры, які на Беларусі аказваюць сталінаўскай акцыі навет беларусы-камсамольцы. І той мамэнт, як тая-ж савецкая прэса абвяшчала ўрачыста, што калектывізацыя будзе за ўсякую цану праведзена ў жыцьцё,—„чырвоны дыктатар“ раптам пачаў біць адбой: абвясьціў, што тэмп калектывізацыі трэба прыпыніць! І вось—рэзультаты Сталінаўскае правакацыі: „калгасы“ не ўдаліся, абсеяць усяго абшару зямлі ня здолеюць; а сяляне, якія асталіся надалей самастойнымі гаспадарамі, пад пагрозай забраньня ў іх усяе маемасьці ў „калгасы“ параспрадавалі скаціну і іншае дабро ды асталіся на сваей зямлі ні з чым. Яны гэтак сама абсеяць сваіх ніў ня здолеюць. І праз год—на пачатак 1931 году—у межах СССР трэба чакаць страшэннага голаду: там прынамся траціна зямлі астанецца неабсеянай—дзякуючы Сталіну! А тымчасам—сусьветны капітал здолее падрыхтаваць свае аружныя сілы, каб у гэты крытычны мамэнт зрабіць рашучы ўдар уладзе работнікаў і сялян ды вярнуць стары лад на землях былае царскае Расеі.

Хто-ж яшчэ будзе пасьля гэтага сумлявацца ў сталінаўскай правакацыі?!.

## Часовая „перадышка“.

З Рыгі наказуюць у тутэйшую прэсу, што камісарыят земляробства СССР (відаць, у выніку адпору сялянства!) выдаў загад, забараняючы далейшую ліквідацыю „кулацкіх“ гаспадарак і і аддаваньне іх „калгасам“ — да збору новага ўраджаю. Гэтак сама забаронена забіраць насеннае збожжа ў індывідуальных гаспадарак і аддаваць яго калектыўным гаспадаркам.

## „Другая рэвалюцыя“ ў СССР.

Прымусовы—пад пагрозай ссылкі ў Сыбір або расстрэлу—пераход у „калгасы“ гоніць усьцяж прыгранічнае сялянства Беларусі і Украіны ў суседнія заходнія дзяржавы—Латвію, Польшчу, Румынію... З усіх бакоў ідуць весткі аб магчымасьці масавага пераходу граніцы гэтых дзяржаваў. А гэта, зразумела, можа ня толькі завастрыць гаспадарчы і сацыяльны крызіс, які пануе ў іх, але выклікаць і розныя дыплёматычныя комплікацыі з боку ўраду СССР...

Як пішуць з над радавай граніцы ў буржуазныя часопісі, уздоўж яе значна павялічана варта гранічная і войскі, паміж якімі і групамі пераходзючых граніцу сялян ідуць страшэнныя баі, якія часта канчаюцца масавай бойняй уцякаючых сялян... Такія-ж баі адбываюцца паміж атрадамі, якія робяць „калектывізацыю“ сялянскіх гаспадарак і грамадамі сялян, што спраціўляюцца сталінаўскай „рэформе“.

„Карацельныя экспэдыцыі“ паляць і зьніштажаюць цэлыя вёскі. На радавым паграніччы ўсьцяж чуваць страляніну, часам навет гарматнія стрэлы... Перайшоўшыя граніцу сяляне страшэнна змучаны; іншыя з іх ранены кулямі радавых стражнікаў, многа хворых...

Орган расейскіх эсэраў „Соціял. Вестник“ зьмяшчае сэкрэтны цыркуляр радавага ўраду, які загадывае мясцовым уладам „расстрэліваць без усякіх хістаньняў і без запытаньня ў цэнтры—усіх актыўных кулакоў“, якія выступаюць варожа проці пераходу за калгасы... Можна сабе ўявіць, што робіцца на мясцох, як разумеюць мясцовыя ўлады гэтае азначэньне „кулака“... Вось як апісвае тое, што робіцца ў СССР у зьвязку з калектывізацыяй сялянскіх гаспадарак адна шчырая камуністка-сялянка, ліст якой публікуе ў радавай газэце сама ўдава Леніна, пані Крупская:

„Цяцер у нас, піша яна, адбываецца другая рэвалюцыя, ня менш крывавая, як тая, што пачалася ў 1917 г. Наш раён—раён поўнае калектывізацыі. Кулака (!) ліквідуем (!) рашуча і бязьлітасна. Але і спраціўляецца ён так сама адчайна... Клясавая (!) барацьба так завастрылася, што проста нельга даць веры... Нядаўна прыехаў разам з нашымі камунаркамі з суседняй вёскі актыўны камсамолец Гаклічын. Дык яго кулакі зарубілі жыўцом. Раскрышылі на дробныя кавалкі... Зразумела, зараз-жа арыштавалі з дзесяток кулакоў, але галоўных забойцаў яшчэ не знайшлі. Шмат дзе камуністаў б'юць бабы-кулачкі“... „За тое,—захопліваецца карэспандэнтка ўдавы Крупскай-Ульянавай,—якія налёты на кулацкія вёскі робяць нашыя камунары! — Зьбіраецца гэта атрад хлапцоў з паўсотні. Палова іх конная, палова на санках, і едуць яны ў слабую (?) вёску, дзе пераход на колхозы йдзе туга. Ідуць з песьнямі, з гармонікамі... Весела глядзець!“... Што і як робіць гэты „атрад камуністаў“ у слабай вёсцы“, карэспандэнтка не апісвае, але проста канчае, што—пасля такога „налёту“ ўсе проста „валам валяць у калгасы“...

Адным словам, ідзе новая, страшэнная, нячувана крывавая і жорсткая хатняя вайна ў СССР, дзе „зьвярынай“ для азброеных паляўнічых—камсамольцаў зьяўляецца ўжо не мястовы буржуй ці магнат-фэадал, але працоўны селянін-гаспадар... Сьмяротная віна гэтага „кулака“—у тым, што ён любіць свой родны дзедаўскі загон, што ён вядзе добра сваю гаспадарку і мае запрацаваны крывавым потам дабрабыт.

## Стацьця Сталіна.

Буржуазная прэса перадрукавала стацьцю Сталіна ў справе калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Стацьця зьмешчана ў-ва ўсіх савецкіх органах. Яна гэткая характэрная, што прайсьці міма яе моўчкі—немагчыма.

Сталін проста зьдзекуецца над усімі тымі сваімі служкамі, што паверылі, быццам запраўды можна за адным росчыркам пяра Сталіна зьдзейсьніць „сацыялістычны лад“—з дапамогай штыхоў чырвонае арміі і атрадаў Г. П. У. А, паверыўшы, гэныя служкі Сталінавы так шчыра ўзяліся за сваю работу, што ажно... „перастараліся“.

Гэта і сьцьвярджае „чырвоны дыктатар“.

На пачатку стацьці Сталін пералічае пасьпехі на фроньце калектывізацыі. На 20-ае лютага былі скалектывізаваны 50 працантаў гаспадарак у СССР. Гэтак прадугледжаны ў „пяцігодцы“ плян аказваецца зьдзейсьненым на гэты год падвойна. У „калгасах“ сабрана быццам 90% патрэбнага насеньня (—мы ведаем, што ў БССР сабрана толькі 63%). На гэтай падставе Сталін лічыць, што калектывізацыя йдзе добра, што сялянства выявіла імкненьне да пераходу на сацыялістычны лад. Але... але той жа Сталін далей сам выясьняе, якім спосабам ягоныя агенты дасяглі гэнага „павароту да сацыялізму“. Ен перасьцерагае перад небясьпекай гэткай лішне лёгкай і лішне хуткай „перамогі“: яна можа выклікаць—зусім беспадстаўна!—пераконаньне ў камуністычнай партыі, быццам „мы ўсё можам!“ Не, далёка ня ўсё можна. Бо—ня можна тварыць „калгасы“ гвалтам. Ня можна механічна накідаць сыстэму калектыўнае гаспадаркі там, дзе няма адпаведных варункаў.

Як жа выглядае справа ў запраўднасьці? — пытаецца Сталін. Ці можна сказаць, што ўсюды быў тасаваны прынцып дабравольнасьці і прыйманьня пад увагу асаблівых мясцовых варункаў? Не, гэтага сказаць нельга,—піша Сталін. Ведама, што ў цэлым радзе раёнаў, дзе няма памысных варункаў дзеля арганізацыі „калгасаў“, стараліся падгатаваўчую працу замяняць чыноўніцкімі дэкрэтамі аб калектывізацыі, папяровымі рэзалюцыямі аб разьвіцьці „калгасаў“, якіх на дзеле няма, але аб „істнаваньні“ якіх ёсьць куча самахвальных рэзалюцыяў. Ведама, што ў Туркестане заганялі ў „калгасы“ такім спосабам: сялян, якія ўпіраліся, пазбаўлялі вады, без якое зямля тамака ня родзіць (увесь край там штучна навадняецца)...

І вось Сталін б'ець адбой: ён кажа, што, як пераходная форма да „калгасаў“, мусіць быць уведзена перш **земляробская арцель**, у якой будуць супольнымі толькі гаспадарскія машыны, але не падлягаюць калектывізацыі хаты сялянскія, рэчы штодзеннага ўжытку, гароды, сьвіньні, куры і інш. Гэта, аднак, не праведзена ў жыцьцё,—піша Сталін. Хаця арцель яшчэ не замацавалася, як форма гаспадаркі, робяцца спробы калектывізацыі ўсяго, што мае селянін. Дражніць селяніна—сябру „калгасу“—социялізацыяй хаты, птаства, скаціны ў той час, як арцельная форма „калгасаў“ не замацавана,—ці-ж гэта ня ёсьць палітыка, патрэбная нашым ворагам?

„Некаторыя з заядлых сацыялістаў—піша Сталін—даходзяць да таго, што даюць арцелям загады „зьліквідаваць у працягу трох дзён увесь запас дамовага птаства ў паасобных гаспадарках“, вызначаючы адумысных „камэндантаў“, якія маюць „заняць у арцелях кіраўнічыя становішчы“, „кіраваць імі шляхам сацыялістычнае барацьбы“ і—ясна-ж—зацісьнуць усю арцель у кулак... Што-ж гэта такое: палітычнае кіраўніцтва „калгасамі“, ці—палітыка разбурываньня іх і падрываньня даверра? Не кажу ўжо аб такіх нібы „рэвалюцыянерах“, якія справу арганізацыі арцеляў распачынаюць... здыманьнем званоў! Зьняць званы—вось дык, падумаць, рэвалюцыянізм!“

„Як магла паўстаць сярод нас гэткая дурная практыка ў правядзеньні социялізацыі, такія сьмеху вартыя спробы пераскаківаньня праз самых сябе,—спробы, маючыя наўвеце абмінуць клясы і клясавую барацьбу, а на дзеле ліючыя толькі ваду на млын клясавых ворагаў? Усё гэтае магло нарадзіцца толькі ў атмосфэры „лёгкіх“ і „неспадзяваных“ перамогаў на фроньце „калгаснага“ будаўніцтва. Магло паўстаць на фоне проціленінскіх настрояў часткі нашае партыі: „мы ўсё можам“, „нам усё дазволена“... Магло стварыцца пад уплывам толькі таго, што ў некаторых з нашых таварышоў закружылася галава ад удачы і што ад гэтага часова яны ўтрацілі яснасьць розуму і цьверозасьць паглядаў“.

